# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 13 (683) 30 САКАВІКА 1969 г. ЦАНА 60 гр


## БГКТ

### У ГАРАДКУ

15-га сакавіка ў Гарадок выязджала журы з Беластока ў складзе: Дамініка Краўзэ-Вайтовіч (старшыня), Стэфан Сабірайскі і Уладзімір Юзвюк. Яно закваліфікавала там гарадоцкі мастацкі калектыў на ваяводскі агляд аматарскіх калектываў БГКТ у Гайнаўцы.

Слоўна-музычны мантаж па паэме Янкі Купалы «Адвечная песня» (урывак аб чатырох порах года) гарадоцкія самадзейнікі падрыхтавалі даволі добра. Пераплятаецца ён песнямі. Дзве песні напісала вядомая фальклярыстка Ніна Мушынская. Яна шмат працы ўлажыла ў падрыхтоўку мантажа, касцюмаў, у падборку і характарызацыю артыстаў.

Дом культуры імя Кастуся Каліноўскага не змог змясціць усіх зацікаўленых выступленнямі сваіх гарадоцкіх аматараў.

### У БЕЛЬСКУ ПАДЛЯШСКІМ

16-га сакавіка адбыўся ў Бельску Падляшскім агляд аматарскіх калектываў. Узяло ў ім удзел пяць драмгурткоў і бельскі харавы калектыў пад мастацкім кіраўніцтвам Міхася Артышэвіча.

Моладзь з Рыбалаў пад кіраўніцтвам настаўніка Сяргея Філіпюка выступала з п'есай «Выбух» і заняла першае месца. Аматары з Маліннік пад кіраўніцтвам Міхася Іванчука ставілі п'есу «Гарадскія госці» і занялі другое месца. Самадзейнікі з Паўлаў пры дапамозе кіраўніка школы Аляксея Максімюка падрыхтавалі пастаноўку «Бо і ў пісанні было сказана». Самадзейнікі з Пасынак (рэжысёр Аляксандра Панасюк) ставілі камедыю «Мікітаў лапаць», а моладзь з Крывой — польскую п'есу «Гжэх» Стэфана Жаромскага. Гэтыя тры драмгурткі атрымалі раўназначныя ўзнагароды. Паколькі не было канкурэнтаў для Бельскага хора, ён таксама закваліфікуецца на першае месца.

У ваяводскім аглядзе возьмуць удзел бельскі хор і драмгурток з Рыбалаў. Адносна драмгуртка з Малліннік выкажацца Прэзідыум ГП. Магчыма, што ён будзе выступаць у Гайнаўцы.

### У ГАЙНАЎЦЫ

Нядаўна павятовае журы да мастацкіх калектываў БГКТ праслухала Гайнаўскі харавы калектыў і драмгурток са Скупава. Яно закваліфікавала на ваяводскі агляд харавы калектыў з Гайнаўкі.

### У БЕЛАСТОКУ

16-га сакавіка Гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку арганізаваў у памяшканні Галоўнага праўлення канцэрт эстрады «Лявоніха». На канцэрт толькі сабралося ахвотных, што не маглі яны ўсе змясціцца. Таму ў хуткім часе зноў будзе арганізаваны тут канцэрт «Лявоніхі».

### ЧЛЕНСКІЯ СКЛАДЧЫНЫ

Справаздачна-выбарчая кампанія ажывіла дзейнасць гурткоў Беларускага таварыства. Неабходным з'яўляецца, каб актывісты, якія абслугоўваюць гурткі БГКТ, больш звярталі ўвагі на аплочванне членскіх складчын, каб выяснялі, што яно сведчыць аб сувязі членаў са сваёй арганізацыяй, што гэты амаль сімвалічны 12-цізалатовачны гадавы фінансавы ўклад сведчыць, між іншым, аб свядомасці яе членаў, якія ахвотна выконваюць гэты свой абавязак. (мх)



30 сакавіка — Дзень металіста. Як развіваецца гэты напрамак нашай прамысловасці, сведчаць наступныя факты. У 1938 г. Польшча экспартавала машын і прылад вартасцю каля 3 мільёнаў долараў. У 1968 г. вартасць экспарту машын і прылад пераўзышла мільярд долараў... Польская прамысловасць існуе на сусветных рынках, як рэальны сімвал развіцця нашай гаспадаркі, а таксама нашага месца ў свеце.

На здымку мантаж халадзільнай вежы ў электроўні «Галемба».

## У НАЦЫЯНАЛЬНАЙ КАМІСІІ ВК ПАРП

13 сакавіка г.г. адбылося пасяджэнне Нацыянальнай камісіі Ваяводскага камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі ў Беластоку, прысвечанае абмеркаванню лектарскай дзейнасці нацыянальных таварыстваў у 1968—69 гадах.

Інфармацыі на гэту тэму склалі прадстаўнікі паасобных таварыстваў. Вынікае з іх, што шмат зроблена ў гэтай галіне, і што на гэтага роду дзейнасць ёсць вялікае запатрабаванне асяроддзя. Падкрэсліваючы дасягненні і станоўчыя бакі лектарскай дзейнасці нацыянальных таварыстваў дыскутанты выказалі шэраг каштоўных прапаноў, якія могуць паставіць гэту працу на вышэйшы ўзровень. Усе былі згодны, што ў асноўным лектарская дзейнасць павінна абапірацца на сучаснасці. Гэта зусім не значыць, што не трэба кранаць гісторыі. Справа ў прапорцыях, сувязях гісторыі з сённяшнім днём. Лектарская дзейнасць, падкрэслівалі дыскутанты, павінна выхоўваць асяроддзе ў духу патрыятызму, у духу актывізацыі яго да творчай грамадскай працы. (рл)

## НАСУСТРАЧ VI З'ЕЗДУ БГКТ

Так ужо ў нас павялося, што ў гарадах і мястэчках да Беларускага таварыства належаць не толькі маладыя людзі, але і старэйшыя.

Зусім інакш выглядаюць гэтыя справы на нашых вёсках. Тут зноў рэдка дзе старэйшыя людзі з'яўляюцца членамі Беларускага таварыства. Тут у асноўным да нашай арганізацыі належыць моладзь і ў многіх мясцовасцях настаўнікі. І адчуваецца існаванне гуртка БГКТ у тых вёсках, дзе добра развіваецца аматарскі рух, дзе моладзь хоча нешта рабіць, дзе хоча праявіць свае здольнасці і паказацца ў ролі «артыстаў», дзе прыналежнасць да арга-




нізацыі дапамагае арганізаваць забавы, вечарыны.

Амаль таксама было і ў Малінніках у Бельскім павеце. Гурток БГКТ утварыўся тут ужо даўно. Даўно ўжо там існуе таксама гурток Саюза вясковай моладзі (ЗМВ). І гэтыя дзве арганізацыі складаюцца з тых самых людзей, з той толькі розніцай, што праўленні гурткоў складаюцца з іншых асоб. А так усё разам. Разам праводзяцца сходы, разам прымаюць пастановы, разам іх рэалізуюць.

Раней моладзі ў школе кіраўнік не дазваляў арганізаваць ніякіх мерапрыемстваў. Але калі хлопцы і дзяўчаты рашылі стварыць драмгурток, калі пачалі развучваць ролі, праводзіць рэпетыцыі, а потым публічна выступаць, дазвол выступіць у школе моладзь атрымала. Пачалі многа гаварыць пра хлопцаў і дзяўчат з Малліннік, пра іх артыстычныя здольнасці, пра іх упартасць і папулярнасць. Пачалі яны атрымоўваць запрашэнні выступіць з п'есай у многіх вёсках. І ездзілі часта. Напрыклад, у 1967 годзе самадзейнікі з Малліннік выступалі 17 разоў. У мінулым годзе ў суседнія вёскі выязджалі 10 разоў.

Выступалі найбольш з п'есай Алеся Барскага «Гарадскія госці». Але як выступалі? Выступалі дасканала, выступалі на такім высокім мастацкім узроўні, якога я асабіста яшчэ нідзе ў гуртках БГКТ не бачыў. Моладзь пачалі шанаваць, паважаць яе дзейнасць. У апошнія гады настаўніцы Барбара Баркоўская і Людміла Швайко цесна супрацоўнічаюць з моладдзю. У школе цяпер збіраецца моладзь і некалькі разоў арганізавала нават патанцоўку.

Некалькі слоў неабходна сказаць аб некаторых людзях гуртка БГКТ і ЗМВ, аб іх энтузіязме да аматарскага руху. Міхась Іванчук і Марыся Саха працуюць у Бельску, Юрка Іванчук і Юрка Міранчук вучацца ў Беластоку, Мікалай Іванчук у Варшаве, Вера Капа працуе ў Беластоку, Вера Калішук працуе настаўніцай у даволі адлеглай вёсцы (Андрыянкі). Усе яны выкарыстоўваюць кожную аказію, каб прыехаць у сваю вёску і разам са сваёй моладдзю развучваць ролі і выступаць на сцэне. Гэтыя людзі не лічацца ні з часам, ні з цяжкасцямі даезду. Іх прыцягвае любоў да мастацтва. У кожнага з іх свая біяграфія, характар, але ўсіх іх аб'ядноўвае любоў да сцэнічнага слова. Усе яны адчуваюць вялікую радасць, калі бачаць, што іх ігра спадабалася гледачам і выклікала ў іх добрыя пачуцці. Варта падкрэсліць тое, што гэтыя людзі самі да сваіх п'ес робяць дэкарацыі, рыхтуюць касцюмы, самі робяць характарызацыю.

9-га сакавіка гурткі БГКТ і ЗМВ правялі адкрыты справаздачна-выбарчы сход. Прышло сюды шмат школьнікаў і старэйшых жыхароў вёскі. Прысутных членаў БГКТ было 23 (вядома, што толькі ж і членаў ЗМВ). Старшыня гуртка БГКТ Юрка Іванчук прачытаў справаздачу, у якой вельмі скромна паказаў дасягненні ў аматарскім руху. Найбольш звярнуў ён увагі на цяжкасці, з якімі штодня сустракаецца моладзь. А гэтымі цяжкасцямі з'яўляюцца перш за ўсё: недахоп святліцы, дзе

Працяг на стар. 4

# ТАКАЯ СЁННЯ ГАЙНАЎСКАЯ ЗЯМЛЯ (1)

«Павет без шанцаў» — такі загаловак меў артыкул змешчаны каля 15 гадоў таму ў адным з часопісаў. Гутарка ішла пра Гайнаўскі павет, а да павета без шанцаў гэту ваколіцу аўтар залічыў: недахоп сучаснай прамысловасці, недахоп дарог, кепскія глебы, збядненне лясоў, нізкі ўзровень сельскагаспадарчай культуры, недахоп сувязей ПКС, працуючая са стратамі спулдзельчасць забеспячэння і збыту, ваеннае знішчэнне.

Аб сельскагаспадарчым становішчы Гайнаўскага павета перад вайной выразна гавораць размеры эміграцыі. Кожны год выязджала адсюль у пошуках працы і хлеба больш асоб, чым з іншых паветаў Беласточчыны.

Павет займае плошчу 159 тыс. гектараў, але зямельных угоддзяў ёсць у гэтым толькі 79 тыс. га. Галоўнай праблемай з'яўляецца цераспалосіца і раздробленне грунтаў. Такое становішча выступае аж у 43 вёсках і 24 хутарах ахопліваючы арэал звыш 25 тыс. га, значыць трэцюю частку ўсіх зямельных угоддзяў у павеце. Цераспалосіца прычыняецца да таго, што селянін мае сваю зямлю ў больш дзесяці вузенькіх кавалачках. Перашкаджае гэта ўвядзенню ў шырокім маштабе механізацыі, насеннай кантрактацыі, а таксама сучасных метадаў аховы раслін.

Старт з такога ўзроўню быў незвычайна цяжкі, але аднак Гайнаўка выпярэджвае зараз іншыя, больш заможныя паветы ваяводства. Уздоўж і ўпоперак перарэзваюць сёння прыгожыя дарогі. У апошнім дзесяцігоддзі пабудавана тут каля 180 км мясцовых дарог, у большасці — грамадскім чынам.



ГЗПД. Піла.

Шмат гадоў Гайнаўскі павет першынствуе ў ваяводстве ў рэалізацыі грамадскіх чынаў. Каб гэтае грамадскае намаганне падлічыць, атрымалася б вялікая сума — амаль 100 млн. зл.

У гэтым годзе гайнаўскія актывісты грамадскага чыну маюць намер пабудаваць далейшых 20 км такіх мясцовых дарог. Гэта абавязацельствы для адзначэння 25 гадавіны ўтварэння ПНР. Зрэшты, не адзінае. Вёска Гайнаўскага павета хоча прызітаць 25-годдзе грамадскімі чынамі вартасцю ў 8 млн. зл.

Незалежна ад дарог (вартасць грамадскай працы каля 12 млн. зл) павет прадаўжае і пачынае будову школ, святліц, стражацкіх раміз і дамоў настаўніка. Школы атрымаюць такія вёскі як: Мора, Курашава, Горнае і Дашы, клубакавярня ў Дубінах, раміза — святліца ў Чыжах, будынак ЛОК-у ў Гайнаўцы, гарадок навукі дарожнага руху і дзіцячы гарадок у Гайнаўцы. Але гэта не ўсё, таму што працягваецца будова далейшых аб'ектаў, якія пачата ў мінулым або ў гэтым годзе. Гэта далейшых 14 пляцоў будовы.

Разам у 1965—1968 гадах зроблена капіталаўлажэнняў у павеце 492 млн. зл. У мінулых гадах пабудавана ў павеце мотазазоўню ПКП у Чаромусе, керамічную фабрыку ў Старым Ляўкове, аддзел рэтартоўні, механічныя варштаты і рэсартовую лабараторыю ў ЗСДД, ліставы цэх, кацельню-сілоўню, сыравінныя склады ў ГЗПД. Перадазанне ў карыстанне гэтых аб'ектаў стварае ўсё лепшыя асновы да далейшага развіцця прамысловасці. З іншых аб'ектаў пабудавана гатэль на 140 месц у Белавежы, тры пякарні, тры прадпрыемствы грамадскага харчавання, філіял ПОМ-у ў Гайнаўцы, майстэрні ПОМ-у ў Кляшчэлях і Нарве, 6 баз у ГС-ах і ПЗГС-е, 48 злеўняў малака, 4 міжгуртковыя машыновыя базы. У 1965—68 гадах куплена 149 трактараў з камплектамі машын.

Выдаткі на электрыфікацыю вёскі асягнулі 16 млн. зл, у выніку чаго электрыфікавана 27 вёсак. На канец 1968 года было электрыфікаваных 86% сядзіб у павеце. Значна ўзраслі паслугі для вёскі. Пабудавана ў 1965—68 гадах мяшальню корму ў Гайнаўцы, а таксама майстэрні паслуг у Нараўцы і Гайнаўцы. Наступіла вялікае палепшанне ў забеспячэнні насельніцтва. Рознічныя абарачэнні павысіліся з 1965 г. з 263 млн. зл па 385 млн. зл у 1968 г. Утварылася ў гэтым часе 41 новы магазін і 9 складаў. Да канца 1970 года рознічныя абарачэнні павялічацца да 450 млн. зл. У прамысловай гаспадарцы працуе зараз 10200 чалавек, а валавая прадукцыя гайнаўскай прамысловасці сягае штогод 500 млн. зл, а пасля пабудовы фабрыкі мэблі і стружкавых пліт прырост прадукцыі ўзрасце да 800 млн. зл. ГЗПД стануцца першым у Польшчы камбінатам комплекснай пераапрацоўкі дрэва. Несумненна будуць яны таксама належаць да найбольшых і найбольш сучасных у Еўропе.

**Канстанцін Ляшчынскі**
**Фота: Р. Сянько**

Гайнаўка. ГЗПД.

## ЛЮДЗІ БГКТ

## ◆ ВАНЯ КІРЫЗЮК ◆



**Пасля заканчэння пачатковай школы перад кожным маладым чалавекам стаіць пытанне, дзе пайсці вучыцца. Пачаткова Ваня Кірызюк выбраў быў агульнаадукацыйны ліцэй, а потым вырашыў паступіць у будаўляны тэхнікум у Беластоку. Нягледзячы на тое, што Беласток ад Крываціч знаходзіцца далекавата, аднак Ваня амаль кожную нядзелю праводзіў у сваёй роднай вёсцы, са сваімі калегамі. Браў ён актыўны ўдзел у спартыўных гульнях, якія былі там арганізаваны. Пасля яго ЛьЗСаўцы выбралі на старшыню свайго гуртка. Усе ведалі, што з яго добры арганізатар. Арганізацыйная яго «жылка» асабліва праявілася, калі з яго ініцыятывы ў Крывяцічах утварыўся гурток Беларускага таварыства. Неяк так сталася, што ўсе хлопцы з'яўляюцца членамі БГКТ. Дзяўчаты зноў належаць да Саюза вясковай моладзі (ЗМВ). І так, у Крывяцічах тры арганізацыі, якія аб'ядноўваюць моладзь. Кожная арганізацыя арганізавала свае мерапрыемствы, якія вельмі часта выклікалі непаразуменні і не давалі добрых вынікаў.**

**Аднойчы з павятовага праўлення ЗМВ у Бельску Падляшскім прыехаў на сход прадстаўнік. Сабралася тады ўся моладзь вёскі. Ваня Кірызюк даказаў, што неабходна паклікаць міжарганізацыйную камісію, якая каардынавала б і супольна арганізавала культурна-асветную працу. І была выбрана такая камісія, на чале якой стаў старшыня гуртка БГКТ Ваня Кірызюк.**

**Ваня Кірызюк з'яўляецца добрым сябрам «Нівы», добрым яе карэспандэнтам. Ён часта наведвае нашу рэдакцыю, многа ў чым нас інфармуе і многа ў чым з намі раіцца.**

**У гэтым годзе ён закончыць будаўляны тэхнікум і пачне працаваць. Але напэўна і далей будзе цесна звязаны са сваёй вёскаю, са сваёй моладдзю, і далей будзе яе важаком. МХ**

## ЦІКАВЫЯ КНІЖКІ

### Mały słownik pisarzy świata

Нядаўна выйшаў тыражом 60275 экземпляраў Малы слоўнік пісьменнікаў свету. У ім змешчаны кароткія творчыя аднатацыі 1500 пісьменнікаў нашай планеты. З беларусаў трапілі ў слоўнік Францішак Багушэвіч, Янка Купала, Якуб Колас, Пятрусь Броўка, Кандрат Крапіва, Аркадзь Куляшоў і Максім Танк. Цана слоўніка 45 зл.

(рл)

# • РАЗВІЦЦЁ РЭЛІГІЙНЫХ СЕКТАЎ НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ •

Развіццё новых пратэстанцкіх веравызнанняў, званых часта рэлігійнымі сектамі, з'яўляецца цікавай асаблівасцю праваслаўнай вёскі міжваеннага перыяду. З'ява гэтая сведчыць аб глыбокіх духовых пераўтварэннях унутры беларускага вясковага асяроддзя. Ніжэй падпісанаму ўдалося прасачыць працэс развіцця паасобных пратэстанцкіх веравызнанняў у праваслаўных вёсках Беласточчыны. А вось некаторыя важнейшыя дадзеныя.

Агульна беручы, веравызнанні, якія распаўсюджваюцца сярод праваслаўнага насельніцтва Беласточчыны, падзяліць можна на два разрады: баптыстычныя (баптысты, евангелісты, прастачкі) і адвентыстычныя (адвентысты сёмага дня, даследчыкі Св. пісання, Сведкі Яговы). Веравызнанні першага разраду прабуюць перш за ўсё знаходзіць «лякарства» на адвечныя праблемы чалавечага жыцця, як смерць, няшчасці, цяжкасці жыцця. Знаходзяць яго або ў рэлігійнай кантэмпляцыі (паглыбленне роздуму над жыццём і светам на падставе св. пісання), або ў рэлігійнай экстазе асягаемай перш за ўсё пасля доўгіх супольных маленняў. Веравызнанні другога тыпу маюць характар «гісторыязафічны»: імкнуцца яны перш за ўсё зразумець нашыя часы на падставе падрабязнага разгляду тэкстаў Біблii, акрэсліць момант канца свету і знайсці дарогу да «спасення». Усе адвентыстычныя веравызнанні згодны з тым, што канец свету блізкі, розніцы паміж імі ёсць толькі ў прадбачванай чарзе падзей падчас канца свету і ў абавязках веруючага, які імкнецца да «спасення». Варта заўважыць, што розныя адгаліненні адвентыстычных рухаў ад часу іх узнікнення ў другой палове мінулага стагоддзя многакратна вызначалі дакладныя даты немінучага канца свету. Непаводзіны гэтых прадбачванняў не здолелі аднак устрымаць развіцця паасобных адвентыстычных веравызнанняў.

Міжваенны перыяд характарызуецца перш за ўсё хуткім развіццём у праваслаўных вёсках Беласточчыны паасобных веравызнанняў баптыстычнага тыпу. Першая абшчына баптыстаў на тэрыторыі нашага ваяводства заснавана была ў горадзе Беластоку ў 1902 годзе. Заснавальнікамі яе былі баптысты нямецкага паходжання. У праваслаўных вёсках Беласточчыны баптызм пачынае развівацца пасля першай сусветнай вайны. Прапагатарамі яго з'яўляюцца людзі, якія прынялі новае веравызнанне падчас «бежанства» ў Расію, або тыя расійскія баптысты, якія ў выніку вайны і рэвалюцыі знайшліся на тэрыторыі міжваеннай Польшчы. Галоўнымі цэнтрамі баптызму з'яўляюцца: Беласток, Зельва і ваколіцы Белавежскай пушчы (Белавежа, Нараўка, Гайнаўка. У адным толькі 1933 годзе, як падаюць афіцыяльныя дадзеныя ўлад, у ваколіцы Гайнаўкі новае веравызнанне прыняло каля 80 асоб. У міжваенны перыяд на тэрыторыі ваяводства пастаянна ўзрастала колькасць членаў іншых веравызнанняў баптыстычнага тыпу: евангелістаў аб'яднаных у так званую Хрыстовую царкву і пяцідзесятнікаў. Канец міжваеннага дваццацігоддзя з'яўляецца апагеем у колькасным іх развіцці. У перыяд акупацыі колькасць членаў гэтых сектаў у асноўным не змяняецца, а пасля вайны наступае ў беларускіх вёсках пастаяннае іх змяншанне. Вынікае гэта з аднаго боку з паміранняя старых членаў сектаў, выязду некаторых з іх у гарады, а з другога боку, з вельмі малога ў параўнанні з міжваенным перыядам, прыходу новых веравызнаўцаў. Рытуальны хрэст прымаюць зараз у вёсках амаль выключна толькі члены баптыстычных сем'яў, і то не ўсе. Адзінай абшчынай на тэрыторыі ваяводства, якая пасля вайны павольшвае колькасць сваіх членаў, з'яўляецца горад Беласток.

Крыху іншым з'яўляецца працэс развіцця веравызнанняў адвентыстычных асабліва Адвентыстаў сёмага дня і Сведкаў Еговы. У міжваенны перыяд колькасць іх членаў была мінімальнай, а пасля вайны пастаянна, хаця і ў невялікіх колькасцях, лік членаў гэтых веравызнанняў павольшваецца. Найстарэйшымі цэнтрамі адвентызму з'яўляюцца Краснавесь і Сацы. Абшчыны адвентыстаў узніклі ў гэтых вёсках яшчэ ў дваццатых гадах. Зараз Адвентысты сёмага дня налічваюць на Беласточчыне 116 чалавек веруючых і каля паўсотні сімпатыкаў. Нягледзячы на невялікі колькасны стан адвентысты з'яўляюцца найбольш актыўнай, моцна заангажаванай у прапагаванні сваёй ідэалогіі веравызнаўчай групай.

**У. Паўлючук**

Пачатак на стар. 1

# ЭНТУЗІЯСТЫ З МАЛІННІК

магла б моладзь свабодна збірацца і арганізаваць забавы, сходы, ігры, а таксама адсутнасць спартыўнай пляцоўкі. (Справаздача гэта была адначасова і гуртка ЗМВ).

Праз скромнасць і з недахопу глыбейшага разумення сваёй ролі не былі паказаны ўсе станоўчыя бакі і ўсе недахопы ў працы абедзвюх гэтых арганізацый, да якіх належаць тыя ж самыя маладыя людзі. Часткова справаздачу папоўніла дыскусія, у якой была гаворка і аб сустрэчы з паэтам Віктарам Шведам, і аб паездцы на дажынкі ў Варшаву, і аб патрэбе большага зацікаўлення сельскагаспадарчай асветай, і аб дрэннай дарозе, і аб ліквідацыі павятовымі ўладамі пункту аховы здароўя ў Малінніках. Адны гаварылі, што неабходна забавязацца да грамадскага чыну пры пабудове дарогі, а таксама пры будове святліцы і пункту аховы здароўя. Іншыя зноў даказвалі, што многа моладзі працуе па-за Маліннікамі і грамадскага чыну не будзе каму выконваць. А лепш выйсці з гэтай ініцыятывай на вясковы сход і ўсіх жыхароў змабілізаваць да яго.

Ані ў справаздачы, ані ў дыскусіі не было ўспемнена аб такіх важных справах як абсалютная абыякавасць да працы моладзі з боку партыйнай арганізацыі, грамадскага камітэта ПАРП, прэзідыума ГРН у Грыгораўцах і яго камісіі да спраў культуры. Каму, як не ім у першую чаргу апекавацца і дапамагаць моладзі, каму, як не ім, павінна залежаць, каб станоўчыя, выхаваўчыя вартасці якнайшырэй праяўляліся ў працы гурткоў БГКТ і ЗМВ. Маецца ўражанне, што іх гэтая справа зусім не кранае, што моладзь Маліннік больш у гэтым зацікаўлена і больш робіць у гэтай галіне, як усе яны разам узяўшы.

Пасля заканчэння дыскусіі адбыліся выбары праўленняў гурткоў БГКТ і ЗМВ. І так, старшынёю гуртка БГКТ выбраны Юрка Іванчук, сакратаром — Вера Калішук, скарбнікам — Ніна Іванчук і членамі праўлення — Людміла Швайко і Уладзімір Данілюк. Старшыня і сакратар гуртка БГКТ паедуць на канферэнцыю аддзела. Праўленне гуртка ЗМВ узначаліла настаўніца Барбара Баркоўская. Аб ёй трэба сказаць і тое, што яна падрыхтавала школьнікаў да дэкламатарскіх выступленняў на тэму 50-ай гадавіны БССР.

Пасля сходу моладзь сабралася ў аддзельнай зале, каб пагаварыць аб ходзе схода, аб яго добрых баках і недахопах, а таксама разам пасядзець і пагаварыць з прадстаўнікамі БГКТ з павета і са сваімі аднавяскоўцамі, якія заўтра паедуць з Маліннік да працы і навукі, і якія зноў у суботу з'яўляцца тут і правядуць вечар і нядзелю у роднай вёсцы.

Драмгурток БГКТ і ЗМВ плануе прыняць удзел у аглядзе мастацкай самадзейнасці нацыянальных меншасцей. Жадаем усяго найлепшага.

М. Хмялеўскі



Прэзідыум сходу.



Удзельнікі сходу.



Члены выбранага праўлення гуртка: Юрка Іванчук, Ніна Іванчук, Вера Калішук і Уладзімір Данілюк.

# СПЕЦЫЯЛІСТЫ, ГАСПАДАРКІ, КАМАСАЦЫЯ

Над павелічэннем узросту сельскагаспадарчай прадукцыі працуюць калектывы спецыялістаў. Першы этап іх працы быў закончаны ў лютым-сакавіку мінулага года. Тады апрацавалі яны заданні паасобным гаспадаркам і адміністрацыйным адзінкам. Гэтымі ўказаннямі спецыялістаў кіраваліся адміністрацыйныя ўлады, гаспадарчыя і спулдзельчыя ўстановы, якія прымалі прадукцыйныя пастановы.

Але на гэтым не канец. У гэтым годзе групы спецыялістаў сельскай гаспадаркі зноў у дзеянні. Заканчваюць яны працу вызначаючы адначасова, у якой меры паасобныя індывідуальныя гаспадаркі рэалізавалі мінулагоднія заданні аграмінімум. Калектывы спецыялістаў апрацоўваюць заданні паасобным гаспадаркам, вёскам і індывідуальным гаспадаркам на гэты год. З вынікамі апрацовак пазнаёмлена партыйныя арганізацыі, грамадскія камітэты ПАРП і ўсіх гаспадароў у Бельскім павеце. Звернута ўвагу ўсім тым, хто не дастасаваўся да ўказанняў калектываў спецыялістаў сельскай гаспадаркі і не рэалізаваў пастаўленых заданняў у мінулым годзе, што калі і ў далейшым так яны будуць паступаць, дык іх гаспадаркі пойдуць пад аўкцыён згодна з сеймавым законам ад 24.I.1968 года і прададзены або пераняты дзяржаўным скарбам.

Балячкай у павелічэнні прадукцыйнасці сельскай гаспадаркі з'яўляюцца эканамічна занядбаныя гаспадаркі. На тэрыторыі Бельшчыны такіх гаспадарак 580 з 6000 гектараў зямлі. «Зямля павінна радзіць» — гаворыцца ў праграме партыйнай арганізацыі. Адсюль заданне для адміністрацыі павета і ГРН, каб пераймалі гэтыя гаспадаркі на скарб дзяржавы.

З поўным размахам рэалізавана ў Бельскім павеце закон аб камасацыі зямлі. У мінулым годзе закваліфікавана цераспалосіцу ў 9 вёсках на абшары 6.328 га. Праводзіцца зараз працу ў далейшых 9 вёсках, дзе скамасуецца 9.438 гектараў. Да 1975 года ў Бельскім павеце цераспалосіца будзе толькі гісторыяй.

АК

# Нераўнамернасць сеўнікаў

Гаспадары Бельскага павета зараз маюць **2800** сеўнікаў. Толькі ў мінулым годзе ў выніку інтэнсіўнай рэалізацыі заданняў аграмінімум у галіне ліквідавання сяўбы з плахты, тутэйшыя гаспадары закупілі **476** збожжавых сеўнікаў. Такая колькасць сеўнікаў тэарэтычна хапіла б, каб заспакоіць патрэбы. Некарысным фактам астаецца нераўнамернае іх размяшчэнне. Асаблівую ўвагу гандлёвыя ўлады і сельскагаспадарчая служба павінны звярнуць у бліжэйшых гадах на такія ГРН як: Пілікі, Рыбалы, і Бельск Падляшскі, дзе адчуваецца недахоп сеўнікаў. (ак)

## РОДНАЯ ЛІТАРАТУРА

## ІВАН ПТАШНІКАЎ

**Іван Пташнікаў нарадзіўся 7 кастрычніка 1932 года ў вёсцы Задроздзе Мінскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Пачаў друкавацца ў 1957 годзе. Выйшлі ў свет зборнікі апавяданняў і аповесцей «Зерне падае не на камень» (1959), «Лонва» (1965), «Сцяпан Жыхар са Сцешыц» (1966), раман «Чакай у далёкіх Грынях» (1962). Новая аповесць Пташнікава «Тартак», надрукаваная ў 12 нумары «Полымя» за 1967 г., урывак з якой прапануем сёння ўвазе нашых чытачоў, з'яўляецца выдатным дасягненнем беларускай прозы.**

# ◆ТАРТАК◆

Прагалам пайшлі адгалоскі.

— Не спі, сын... — Алёша пачуў, як яго клікнула Наста, і падумаў, што яму, вунь як хочацца спаць. Не служаць ні рукі, ні ногі — нават языком не кранеш.

Конь, ідучы, усё яшчэ скуб траву ля дарогі, і Алёша падумаў, што хочацца есці, не праходзіць голад.

Яны праехалі дарогай — уехалі ў самы прагал і зноў сталі. Боганчыка зусім схаваў з вачэй туман, і не вядома было, што робіцца ўперадзе. Зноў злезла з воза Наста — ішла да яго, Алёшкавых, калёс, кінуўшы аднаго Буланчыка.

— Зноў наперадзе нешта, сын... — зашаптала яна — Так бы не сталі. Не спі, глядзі... Помні, што я сказала...

Тады Насту клікнулі, Махорка, мусіць.

— Нехта стогне там, уперадзе... Не спі, сын... — Яна кінула ў яго на возе на мяхах дубец, якім паганяла яшчэ ля ракі Буланчыка, калі той не хацеў ісці ў ваду, і пакраталася наперад, мінаючы Януковы калёсы. Янук замычаў, мусіць спрасоння, лежачы на мяхах, і зноў стала ціха, нават не храплі коні. Было чуваць, як ідзе дарогай Наста: дуг, дуг. Калі Наста схавалася за Таніньмі калясьмі, Алёшку хапіла стужа. Ён ссунуўся з мяхоў на дарогу і дагнаў Насту ўжо ля Махоркавых калёс. Махоркі на возе не было, не было і ля каня. Не відаць было нідзе і Боганчыка.

Ужо ля Боганчыкавых калёс Алёша згледзеў, як, сышоўшы з дарогі, у прагале стаяць мужчыны. Двое — Махорка з Боганчыкам. Панок быў ззаду, воддаль — прыхінуўся да сасны, як прыкарэў.

Яны падышлі з Настай да Панка.

— Скажы ты... — загаварыў Махорка да Насты, сціха, як шаптаў. — Не магло ж нам здацца... І мне і Івану. Чалавек стогне.

— Дзе чалавек? — Наста зайшла ім наперад і, натапырыўшыся, глядзела ў прагал.

— Ды тут недзе недалёка... — паказаў Махорка рукой, усё роўна што сабе пад ногі. — Я ўжо і клікаў... Стагнаў быў, пасля сціх.

— І я, Наста, чуў. Аж з калёс, едучы, — кашлянуў Панок.

— Які тут у чорта чалавек... Маюць жа вушы... — загаманіў быў моцна Боганчык.

— Ціш... Сам жа чуў... — шыкаў на яго Махорка.

— Што вы ўсе шыкаеце... Стогне, стогне... Дзяўчына на возе стогне. Ехаць трэба, калі што думаем. Ну і людзі...

— Адыйдзі... — Махорка махнуў быў на Боганчыка рукой.

Усе тады як ураслі ў зямлю.

Нічога не было чуваць.

Выплыў з-за лесу месяц і вісеў цяпер ля цёмнай, што конь з нагамі і галавой, хмары. Павіднела. У тумане была знаць уперадзе дарога — ішла прагалам — і было відаць, як на моху ля ног ляжаць леташнія белыя сасновыя шышкі.

Пасля далёка ў прагале, на балоце, мусіць закрычала пратрывожаная кнігаўка. Кнігавак, відаць, было многа, бо адна не спраўлялася б так часта крычаць. Турчалі жабы, моцна, на ўвесь лес — аж ішлі адгалоскі...

Алёша доўга глядзеў у прагал — у вачах ужо зрабілася аж два месяцы: адзін адбягаўся ад другога і каціўся па небе да самага лесу.

На зямлю, на голую дарогу, ад сосен падаў цень, шырокі, разгаты, і ляжаў, як на чыстым абрусе.

Алёша пачуў, што холадна ў ногі. Пасля стала холадна за плячыма.

— Паедзем... Дзяўчына на возе стогне. Агнём бы яно ўсё пайшло ад маёй галавы... — вылаяўся быў Боганчык і ступіў да Махоркі — невядома чаго.

— Што затросся, як спаралiжаваны? А калі чалавек там? — крутнуўся да яго Махорка.

— Чалаве-е-к... — перадражніў Махорку Боганчык.

— Дык што? Мінаць чалавека? Чалавека я ніколі не мінаў... — Махорка адразу тады ўзлаваўся... Лапаў за кі-

 

# ТРЫБУНА чытачоў

## ПАЕЗДКА Ў ГОСЦІ

Пачатковая школа ў Пашкоўшчыне арганізавала кулік пад загалоўкам «Карнавал маладосці». Школьная моладзь разам з настаўнікамі пры дапамозе бацькоў арганізавала паездку санкамі да школы ў Дубяжыне. Тут вучні абедзвюх школ весела гулялі на вечарыне, якая перапляталася песнямі, танцамі і інсцэнізацыямі. Дубяжынскія школьнікі гасцей з Пашкоўшчыны частавалі смачнымі пончыкамі.

**В. Фалькоўскі**
Бельск Падляшскі

## БУДУЦЬ ШАФЁРАМІ

ПЗМ (Дзяржаўнае матаровае праўленне) штогод арганізуе ў Гайнаўцы матацыклавыя і самахадовыя курсы. У гэтым годзе хутка 40 слухачоў самахадовага курса, прыступіць да дзяржаўных экзаменаў на права вадзіць самаход.

Усе ўдзельнікі курсу працавіта рыхтуюцца. Навуку аблягчаюць ім дапаможнікі, рысункі, кінафільмы, планшэты, мадэлі рухавікоў і т.д.

Будучыя вадзіцелі самаходаў мелі нядаўна сустрэчу з кіраўніком Інспектарату дарожнага руху камэнды павятовай МО. Тэматыка яе — культура язды самаходам і захаванне асцярожнасці ў час язды. Кіраўнік аналізаваў некалькі дарожных выпадкаў. Прыклады былі павучальныя.

**Янка Цялушэцкі**
Гайнаўка

## У ГДАНЬСКУ

Згодна з планам працы праўлення гуртка БГКТ у Гданьску 22 лютага гэтага года была арганізавана аўтарская сустрэча з Алесем Барскім.

З запрошаных гасцей удзел прынялі: Віктар Швед і дацэнт, кандыдат навук Дзяржаўнага ўніверсітэта ў Мінску Аляксандр Міхайлавіч Саржэўскі, які ў гэтыя дні працаваў у Гданьску.

У некалькіх цёплых словах гасцей і сімпатыкаў творчасці Алеся Барскага прывітаў старшыня гуртка Мікалай Сівіцкі.

Далей забраў голас сам паэт, які сказаў некалькі слоў аб пачатках сваёй творчасці, а потым чытаў свае вершы.

Творчасць Барскага зрабіла вялікае ўражанне на слухачах, перш за ўсё таму, што з'яўляецца яна беспасрэднай, што закранае найбольш хвалюючыя праблемы нашага грамадства і што праз яе прабівае вялікая адказнасць за лёс нашай мовы. Вялікую ролю напэўна адыграў тут і сам аўтар, яго спосаб чытання вершаў.

Пасля выступлення паэта адбылася мастацкая частка, у якой члены гуртка выступілі з беларускімі і рускімі песнямі.

Акампаніравала на акардэоне Ірына Мельнікава. Прыемную сустрэчу з Алесем Барскім закончыла танцавальная вечарына.

**Уладзімір Паўлоўскі**
Гданьск

## КАБ БЫЛО ЛЕПШ

Апошнім часам крывяцічкая святліца сталася добрым месцам у развіцці культурнай дзейнасці. Моднымі сталі патанцоўкі, слуханне грамплясцінак, самакрытыка ў сценгазеце. Можна тут пагуляць у шахматы, шашкі, выпіць каву, паглядзець тэлевізійную праграму з БССР і Польшчы. Старэйшыя прыходзяць пагутарыць аб актуальных справах асяроддзя, краіны і свету.

Былі рэальныя магчымасці стварэння пры святліцы драмгуртка. Хлопцы нават пачалі збіраць матэрыял і ўкладаць праграму. Аднак па віне дзяўчат ён не існуе. На апошнім сходзе члены гуртка БГКТ вырашылі ў бліжэйшы час арганізаваць агульнавясковы сход і заахвоціць моладзь да культурнай дзейнасці. Спадзяемся таксама дапамогі з боку старэйшых, а таксама ад сельскагаспадарчага гуртка і партыйнай арганізацыі.

**Ваня Кірызюк**
Крывяцічы

## ВЫБАРЫ Ў ГУРТКУ

Нядаўна адбылася ў агульнаадукацыйным ліцэі нумар 10 у Гайнаўцы справаздачна-выбарчая канферэнцыя школьнага праўлення Саюза вясковай моладзі.

А вось некалькі прыкладаў важнейшых мерапрыемстваў рэалізаваных ЗМВ-оўскаю моладдзю. Да іх належаць танцавальныя вечарыны, грамадскія чыны для школы і горада, папулярна-навуковыя сесіі, удзел у алімпіядзе ведаў аб Польшчы і сучасным свеце, дапамога павятоваму праўленню ЗМВ у справаздачна-выбарчай кампаніі ў гуртках ЗМВ, рэдагаванне класнага органа насценгазеты «Наш голас». Апекуном гуртка ЗМВ у ліцэі з'яўляецца настаўнік Ян Петручук.

У склад новага праўлення ЗМВ выбрана: старшынёю — Віталіса Аўласюка, намеснікамі старшыні — Мікалая Раманюка і Галіну Жарначук, сакратаром — Веру Врублеўскую. Старшынёю рэвізійнай камісіі выбрана Яўгеня Ахрыцюка. У канферэнцыі бралі ўдзел дыр. школы і прадстаўнік павятовага праўлення ЗМВ. Моладзь прыняла шмат абавязацельстваў у сувязі з 25-годдзем ПНР.

**Янцал**

## У БІБЛІЯТЭЦЫ

Цэнтрам культурнага жыцця ў вёсцы Галады Бельскага павета з'яўляецца бібліятэка. Сюды кожны вечар прыходзіць моладзь, каб пачытаць кніжку, газету, пагуляць у шашкі, шахматы і даміно. Бібліятэкарка Зіна Кудзерская дапамагае моладзі ў выбары цікавых кніжак, заахвочвае да чытання. Важна і тое, што яна вельмі ветлівая, добра вядзе бібліятэку, у якой заўсёды чысціня.

**Сцяпан Грыгарук**
Галады

## ЧЫЖОЎСКІЯ ЖАНЧЫНЫ

Гурток вясковых гаспадынь у Чыжах лічыцца адным з лепшых на Гайнаўшчыне. Арганізаваўся гурток 4-ы гады таму назад і налічваў тады 23 члены. Цяпер у яго радах 64 асобы. Узначальвае гурток Марыя Іганові̇ч. Жаночая арганізацыя цесна супрацоўнічае з сельскагаспадарчым гуртком і з настаўнікамі мясцовай школы. У мінулым годзе сельгасгурток фінансаваў кошты дзяцінца, які быў арганізаваны ў вёсцы летам. З культурна-асветных прац гуртка варта адзначыць чытальніцкі конкурс пад загалоўкам «Культура і здароўе асновай сучаснай сям'і». Жанчыны арганізуюць часам дахадовыя забавы і гэтым самым павялічваюць грашовы фонд сваёй арганізацыі.

Гурток арганізаваў шмат курсаў: рацыянальнага харчавання сям'і, мясных вырабаў, крою і шыцця. На гэты год гурток мае таксама цікавую праграму дзейнасці.

**Віталіс Назарук**
Гайнаўка

## ТРЫВОГА

Позняй вечарам Кастусь Новік заўважыў чырвань, а потым агонь у суседняй вёсцы. Задыхаўшыся, прыбег да каменданта пажарнай каманды ў Луцэ, Уладзіміра Лобача. Адразу забілі трывогу і гэтым самым паднялі на ногі ўсіх пажарнікаў. Хто дзе быў і ў чым быў усе збегліся і ўжо падрыхтаванай фурманкай паехалі на ратунак. У Тарнопалі агонь ахапіў усе гаспадарчыя будынкі Івана Бугаровіча. Па-суседску з імі былі будынкі Мікалая Ляшчука і Мікалая Бугаровіча. Пажарнікі намагаліся лакалізаваць пажар і не дапускалі, каб ён пашырыўся. Усе ахвярна змагаліся са стыхіяй. На асобае падкрэсленне заслугоўваюць Міхась Васільчук, Сяргей Лобач, Кастусь Новік, Уладзімір Лобач і Уладзімір Стоцкі. Іван Сімановіч прыпаліў твар ратуючы, каб агонь не захапіў іншых будынкаў. Яўгень Жукоўскі быў у святочным новым касцюме, які моцна прынішчыў і папаліў. Рыгор Стоцкі моцна пашкодзіў нагу. На ратунак прыехала таксама пажарная каманда з Бахуроў адлеглых ад Тарнопаля ў 5 км. Дзякуючы пажарнікам агонь не пашырыўся на ўсю вёску.

**В. Лобач**
Лука

## ЛЯШУЦКІЯ АГАРОДНІКІ

Аляксандр Карпюк і Фёдар Харкевіч з вёскі Ляшукі (Гайнаўскі павет) ужо шмат гадоў займаюцца вырошчваннем агародніны ў цяпліцах.

Апошнім часам Аляксандр Карпюк прадаў поў тысячы пучкоў зялёнай цыбулі і столькі ж салаты.

У мінулым годзе вясною гэты гаспадар прадаў Спулдзельні агародніцка-пчалярскай у Бельску Падляшскім 3500 пучкоў зялёнай цыбулі і амаль толькі ж салаты. Па агародніну самаходы прыязджаюць з Бельска, Гайнаўкі або з Нараўкі. Сталовая ў Нараўцы бярэ агародніну ў А. Карпюка ўжо другі год. Частку яе запатрабавання рэалізуе школа сельскагаспадарчай падрыхтоўкі, што тут на месцы вядзе доследныя палеткі з агароднінай, м. ін. у цяпліцах.

Апошнім часам салату і цыбулю Аляксандра Карпюка і Фёдара Харкевіча купляюць гайнаўскія бары, сталоўкі і рэстараны.

Такім чынам жыхары з горада і нават з Ляшукоў (бо тут на месцы купляюць агародніну на вяселле і хрысціны) спажываюць вітамін, які ўвесну патрэбны для людскога арганізма.

**Ц. Я.**
Новае Ляўкова

## КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Gangster i urzędnik" (USA), 1—2. „Salto" (polski), 3—4. „Brzoza" (jugosł.), 5—6.

**Дубіны**

„Żenia, Żenieczka, katiusza" (radz.), „Za naszą i waszą wolność" (polski) 6—7.

**Нараўка**

„Ubranie prawie nowe" (polski), „Wehikuł czasu" (USA), 2—6.

**Чыжы**

„Między linami ringu" (USA), „Żywot Mateusza" (polski), 2—6.

**Дубічы Царкоўныя**

„Zamach" (polski), „Zakazane piosenki" (polski), 2—6.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Hasło Korn" (polski), „Niepokoje wychowanka Torlesa" (NRF), 2—6.

**Орля**

„Niebo bez krat" (bułg.), „Miłosne kłopoty" (radz.), 2—6.

**Райск**

„Film z czarującą dziewczyną" (rumuński), „Zaufaj mi Anno" (bułg.), 2—6.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Dr Crippen przed sądem" (angl.), „Napad stulecia" (angl.), 1—4.

**Міхалова**

„Lęk" (czeski), 1—2. „Cudowna łamigłówka" (czeski), 3—4. „Chleb i róże" (radz.), 5—6.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Gorzkie życie" (włoski), „Winetou" (jugosł), I i II s., 2—6.

**Шудзялава**

„Droga nad morzem" (bułg.), „Deszcz padał na szczęście" (czeski), 2—6.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Nieznany" (polski), „Westerplatte" (polski), 2—6.

**Новы Двор**

„Noc Iguary" (USA) „Smog" (włoski), 5—6.

**Ліпск**

„Byłam głupią dziewczyną" (węgierski), „Gra uczuć" (hiszpański), 2—6.

---

хлопцаў у зямлянцы. Хай пакінуць яе.

— Пастараюся.

Выйшаў з клуні.

Сядзеў я паміж снапамі, глядзеў праз шчыліну ў сцяне. Думкі біліся ў галаве. Я не мог знайсці лагічнага адказу на пытанне: навошта тыя забілі Нячаева? Дык мелі ж яго ў руках жывога. Маглі спадзявацца на важныя паказанні. Звычайная банда рабаўнікоў? Нічога аб такой мы не чулі. Адкуль узялася? Усё не змяшчалася ў галаве, было мутнае і незразумелае.

Пасля гадзіны скрыпнулі дзверы.

— Гэта я, — пачуўся голас Юльяна, — вылазь, Валодзя.

Вылез.

— Расказвай дакладна, як гэта здарылася?

— Забіўшы сварыліся паміж сабою. Потым перанеслі цела ў найбліжэйшую клуню, палажылі на таку, паклікалі гаспадара і забаранілі даносіць немцам аб здарыўшымся. Тлумачылі, што выйшла страшэнная памылка, забілі свайго чалавека. Казалі пахаваць вечарам пацыху і маўчаць. Цяпер усе гаспадары сабраліся ў солтыса і спрачаюцца паміж сабою. Адны за тым, каб паведаміць жандармерыю, другія — каб утаіць.

«Матыў забойства праясняецца, — падумаў я. — Няма сумнення, што ва ўсёй гэтай справе сядзіць правакацыя. Віноўнікамі былі ўкраінскія фашысты, што выслугоўваліся немцам».

— Пётр, вяртайся да солтыса і дамагайся, каб неадкладна ехаў з паведамленнем у Боцькі. Калі гэтага не зробіць, заўтра або паслязаўтра вёска заменіцца ў попел. Гэта правакацыя!.. А што з атрадам?

— Папярэдзіў хлопцаў. Перайшлі праз багна ў напрамку Волькі.

— Гэта добра...

Тыя, што забілі Нячаева, вярнуліся ў Нурэц, уліліся ў атрад і ўвесь атрад рушыў праз лес у напрамку вёскі Белкі. Дайшлі яны да шашы Бельск-Мілейчыцы. Туды пад'ехалі нямецкія грузавікі, «партызаны» пагрузіліся і паехалі на Бельск. Аб гэтым паведаміў нас вечарам сувязны з Белак Павел Вашчук. Цяпер стала ясна, што перааДзетым за партызан быў украінскі батальён СС.

Жонка і двое дзяцей старшага лейтэнанта Мікалая Нячаева не дачакаліся вяртання з далёкай зямлі свайго мужа і бацькі. Пахаваны ён быў каля магілы лейтэнанта Дзмітрыя Новікава на парафіяльным могільніку ў вёсцы Шашылы. Пасля вызвалення іх целы былі перавезены ў Бельск і пахаваны на супольным могільніку воінаў Савецкай Арміі. Абое загінулі на Беластоцкай зямлі, на якой змагаліся з гітлераўскім акупантам за вашу і нашу свабоду.

Я неадкладна праз атрад Юрчука пераслаў Хмялеўщаву данясенне аб смерці Нячаева.

**Ян Анацік**

---

**У нашай вёсцы**

## КУПЛЯЛІ НА МЕСЦЫ

Вясна для сялян — гэта пачатак цяжкіх і складаных работ. У грамадзе Дубічы Царкоўныя сяляне перш за ўсё пачалі запасацца мінеральнымі ўгнаеннямі на свае палеткі і сенажаці. У мінулых гадах сяляне цэлымі тыднямі стаялі ў доўгай чарзе за гэтымі ўгнаеннямі ў Кляшчэлеўскім ГС-е.

Справа цяпер зусім змянілася на лепшае, таму што гаспадары купляюць угнаенні ў дубіцкім сельгасгуртку, які закупіў іх яшчэ восенню мінулага года на свае патрэбы і цэлай грамады. Частка мінеральных угнаенняў, якая была прызначана для сялян, хутка была імі раскуплена. Трэба адзначыць, што хапіла амаль усім.

Выдаваў іх сялянам са склада ў Дубічах Царкоўных член праўлення сельгасгуртка Іван Чыквін.

## СТАІЦЬ ПУСТАЯ

Злеўня малака (будынак мураваны), была пабудавана ў Дубічах Царкоўных у мінулым годзе. Сяляне вёскі былі вельмі рады, таму што, вядома, нейкі грош ужо будзе ў хаце, бо з малака, калі яго замнога, лішні клопат. Аднак мала цешыліся яны. Толькі некалькі месяцаў насілі малако, а пасля злеўня была закрыта, і па сённяшні дзень так стаіць. Чаму так сталася? Просты адказ! Малачарка больш не захацела працаваць у злеўні, бо і не аплочваецца тут стаяць (так яна гаворыць), бо толькі нейкіх 200 зл у месяц можна зарабіць.

Цяпер няма аматара там працаваць, і з будынка гэтага карысці ніякай. І так малако сяляне выліваюць у карыта свіням.

**Мікалай Панфілюк**
Дубічы Царкоўныя

---

**Ніва**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie 5 $ — w USA.

B.Z.Graf H-1 NAKŁAD 7167

